


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 чэрвеня 2004 года

№24 (475)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18 старонак


## Навіны рэгіёну



### Дзявочы летнік

ВІЛЕЙКА. У чацвер на базе Рабунскай сярэдняй школы, ўпершыню на Вілейшчыне, адкрыўся рэгіянальны аздараўленчы летнік па духоўным, эстэтычным і экалагічным выхаванні "Берагіня" для 14-17-гадовых дзяўчат. Сюды з'едуцца падлеткі з Вілейшчыны, Мядзельшчыны і Барысаўскага раёна.

Ірына РАБУШКА.

### «Маленькая краіна»

АШМЯНЫ. Работнікі Гальшанскага дома культуры адпраўляюцца на гастролі па Ашмяншчыне з дзіцячым мюзіклам "Маленькая краіна", які рэжысіравала дырэктар гэтай установы Ганна Макарэвіч. Артысты ўзялі старт з Ашмянскага дома культуры.

Ірына РАБУШКА.

### У два этапы

МАЛАДЗЕЧНА. У два этапы праходзяць спаборніцтвы неваенізаваных медыцынскіх злучэнняў прадпрыемстваў горада і раёна. У чацвер выпрабаванне на гатоўнасць прайшлі 24 гарадскія каманды, пятніцу – 25 раённых. Месцам правядзення спаборніцтваў стала турбаза "Вілія".

Марына СЛІЖ.

### Карову выратавалі

АСТРАВЕЦ. У сераду ў мястэчку Гудагай у каналізацыйны калодзеж правалілася карова. 8 выратавальнікаў і местачкоўцаў з дапамогай трактара, вяроўкі, троса выцягнулі жывёліну за 30 хвілін. Карова засталася жывая.

Ірына РАБУШКА.

### Гулі-гулі

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Гулі 9-гадовы хлопчык свавольнічаў з запалкамі, што скончылася падпалам гаспадарчай пабудовы. Пакуль выратавальнікі з Мядзела праадолелі 20 кіламетраў з гакам, яна згарэла дашчэнту.

Ірына РАБУШКА.

### Еўрапейскі досвед

ВАЛОЖЫН. Хірург мясцовага РТМА Яўген Ліснеўскі ўдзельнічаў у 3-дзённым еўрапейскім сімпозіуме, што прайшоў у Саратаве, па праблемах прастатыту. Беларускую дэлегацыю прадставілі 14 навукоўцаў і дактароў-практыкаў.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Забіў качаргой

СМАРГОНЬ. 190 слядоў ад пабояў і ўдараў было на целе пацярпелай – 33-гадовай жанчыны. Урэшце сужыцель праткнуў яе качаргой. 35-гадовага забойцу асудзілі на 20 год пазбаўлення волі.

Ірына РАБУШКА.

# Лавіся, парушальнік...

**ВІЛЕЙКА. Супрацоўнікі Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету рэгулярна, разы 3 на тыдзень, адпраўляюцца ў рэйды па выяўленні парушальнікаў правілаў рыбалоўства, палявання і паводзінаў у лесе. Выязджаюць старшы дзяржінспектар Генадзь Лісоўскі, інспектары Алена Бандаровіч, Анатоль Пагуда, Часлаў Вербіловіч, Алег Грабянёк і вадзіцель Генадзь Нікалаевіч не толькі ў будні, але і ў выхадныя, святочныя дні.**

Маршрут 8 чэрвеня пралягаў па тэрыторыі Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў. Едучы ў машыне, інспектары звярталі ўвагу, з пункту гледжання неспецыяліста, на розныя дробязі: ці не свежыя сляды ад колаў машын засталіся на лясной дарозе, ці не стаіць над дарогай пыл, што за людзі і з чым пайшлі па беразе ручая. Так мы праехалі праз вёскі Лазавец, Цна, агледзелі вадаёмы і ручай, што знаходзяцца каля Маладзечна ў раёне завода парашковай металургіі.

На Вілейскае вадасховішча каля вёскі Вязавец прыехалі пасля абеду. Інспектары падрыхтавалі лодкі і адправіліся: адна група ў бок Ярмолічаў, другая – у бок Чэхаў. На кожнай лодцы, акрамя вёслаў, стаіць матор «Ветерок». З сабой бяруць «кошку» – металічнае грузіла на вяроўцы, якое пад вадой чапляе сетку.

Яшчэ з берага заўважылі на вадзе лодку з людзьмі. Падплылі бліжэй – на вёслах сядзяць два хлопчыкі гадоў па 10–11. Па словах маладых весляроў, лодка не іх. «Нейкі дзядзька спытаўся, ці хочам пакатацца, – растлумачылі яны. – Мы пагадзіліся, а ён папрасіў, каб загналі лодку ў затоку». «Сам "сяціцца" не захацеў», – сказаў Анатоль Пагуда пра гаспадара лодкі.

Хвілін праз 15 каля апоры лініі электраперадач «кошка» зачапіла сетку, доўгую, не менш за 10 метраў, з ячэйкамі па 40-50 міліметраў. Часлаў Вербіловіч выбраў яе – адзін падлешчык, які так і не паспеў вырасці да памераў дарослай рыбіны. Усяго ў той дзень дзве групы выбралі метраў 300-400 сетак. Бываюць дні, калі знімаюць некалькі кіламетраў снасцей. Іх інспектары забіраюць з сабой. Затым дрэнныя, з дзіркамі, камісія, у якую ўваходзяць прадстаўнікі выканкама, інспекцыі аховы прыроды, падатковай інспекцыі, знішчаюць – сякуць на дробныя кавалкі або спальваюць. Добрыя, цэлыя сеткі праз камісію па канфіскацыі пры падатковай інспекцыі прадаюць рыбгасдабываючым арганізацыям.

Затрымаць браканьераў складана. Яны хаваюцца ў зарасніках чароту, разбягаюцца па хатах. Шукаць у хаце інспектары могуць толькі з санкцыі пракурора. Самае складанае, па словах Генадзя Лісоўскага, устанавіць асобу парушальніка.

"Кожны месяц, – сказаў ён напрыканцы рэйда, – людзі плацяць ад 1 да 1,5 мільёна рублёў штрафаў. Грошы ідуць у бюджэт таго раёна, на тэрыторыі якога затрымалі парушальніка. На жаль, мы ніколі, напэўна, не застанемся без работы".

Святлана ЦІШКО.



Інспектар Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Часлаў Вербіловіч здымае браканьерскія сеткі на Вілейскім вадасховішчы.

Фота Святланы ЦІШКО.

### Школьнікі–бандыты

Хворых з тубдыспансера школьнікі білі палкамі, нагамі... Некаторым зламалі сківіцы. Гэта толькі эпізод крымінальнай хронікі за тыдзень.

4-я старонка

### Па рэгіёне

З вандроўкі па рэгіёне вярнуліся навучэнцы сельскагаспадарчага ліцэя ў Камарове. Дапамог правесці экспедыцыю краязнаўца Іван Драўніцкі.



8-я старонка

### Гросмайстар – для «Рэгіянальнай»

Чарговае заданне аматарам шашак – чытачам нашай газеты прапануе гросмайстар Леанід Вітошкін.



10-я старонка

■ ТЭАТРАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Маладзечна праз прызму сталіц

**Візітная картка: Андрыян Барткевіч, беларус, нарадзіўся ў Барысаве ў 1959 годзе. У 1988 закончыў 1-е Мінскае культасветвучылішча па спецыяльнасці рэжысёр аматарскага тэатра, у 2000 годзе – Беларускі універсітэт культуры (акцёр драмы і кіно). Цяпер – слухач Маскоўскай акадэміі перападрыхтоўкі работнікаў мастацтва, культуры і турызму (былыя Вышэйшыя рэжысёрскія курсы) на аддзяленні рэжысура драмы пад кіраўніцтвам Марка Захарава, рэжысёр-стажор Марка Захарава ў "Ленкоме", паралельна – студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.**

**— Спадар Андрыян, калі не сакрэт, як вам пашчасціла трапіць у Маскву? І не проста ў Маскву, а да знакамітага Марка Захарава, у "Ленком"...**

— Справа ў тым, што мая работа па п'есе Бертольда Брэхта "Матухна Кураж і яе дзеці" (дарэчы, менавіта гэтым спектаклем у 2003 годзе адкрываўся XIII сезон Мінскага аблдрамтэатра) заняла прызавое месца на рэспубліканскім конкурсе рэжысёрскіх эксплікацый і я ў якасці заахвочвання быў накіраваны на вучобу і стажыроўку ў Маскву. Адбыў ужо дзве сесіі з чатырох. Так што палова тэрміну ўжо ззаду.



Андрыян Барткевіч у ролі Ката Мікалая (першы злева) у пастаралі для дзяцей "Проста Мяфа". Пастаноўка Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне.

Фота з архіву Мінскага аблдрамтэатра.

**— Такім чынам вы ўжо нядрэнна павінны арыентавацца ў тэатральным жыцці расійскай сталіцы, можаце параўноўваць маскоўскія і мінскія тэатры, іхняга і нашага гледача...**

— Магчыма, і так. Хаця, думаю, пытанне не зусім карэктнае. Для таго, каб больш-менш арыентавацца ў маскоўскім тэатральным жыцці, там трэба пражыць, на мой погляд, не менш за год і пастаянна хадзіць на спектаклі, бо па нейкай адной пастаноўцы немагчыма даць аб'ектыўную ацэнку трупе, тэатру ў цэлым. Але ж ад такой нагрузкі можа і "крыша паехаць". Я, напрыклад, за паўтара месяца пабываў на 43 спектаклях у 18 тэатрах. Дык тут, у Маладзечне, больш за месяц прыходзіў у сябе, асэнсоўваў, прыводзіў нешта ў сістэму, абагульняў. Зразумела, нейкія пэўныя тэндэнцыі можна ўжо і вызначыць, але ў цэлым гаварыць асцярагаюся. У Маскве дзяржаўнай падтрымкай карыстаюцца 88(!) тэатраў. Уяўляеце? Я ж пабываў толькі ў невялікай частцы гэтага тэатральнага "архіпелага" ці нават "мацерыка". Так што вялікіх высноў ад мяне не чакайце. Магу расказаць толькі свае асабістыя ўражанні.

Тэатры, як і ўся Масква ўвогуле, вельмі розныя. Ёсць квітнеючыя, элітныя, якія могуць практычна ні ў чым сабе не адмаўляць. А ёсць і такія, што ледзь зводзяць канцы з канцамі. Ды што далёка хадзіць за прыкладамі. Вось, скажам, МХАТ імя Чэхава пад кіраўніцтвам Алега Табакова – ён на ўзлёце, грыміць, "квітнее і пахне". А МХАТ імя Горкага Таццяны Даронінай – наадварот цяпер у занепадзе.

Што тычыцца рэпертуару, то выбар п'ес – велізарны. Ад прасценькіх незамысловатых камедый да культавых спектакляў са складанай рэжысурай, складаным падтэкстам. І ўсе яны знаходзяць свайго гледача. Сапраўдны тэатрал практычна заўсёды зможа паглядзець той спектакль, які захоча.

Нават у элітных тэатрах цэны на білеты даступныя для большасці гледачоў. Скажам, у тым жа "Ленкоме" яны вагаюцца ад 3 да 12 долараў. І заўсёды – аншлаг. А ёсць жа яшчэ і кантрамаркі для студэнтаў, напрыклад. Іншая справа, што няма білетаў. Іх "размятаюць" тыдні за два да спектакля, а то і раней.

Маскоўскі глядач прывучаны да тэатра. Гэта ўжо добрая традыцыя – у выхадныя схадзіць на спектакль. І не на абы-які, а ў канкрэтны тэатр, на канкрэтную пастаноўку, дзе іграюць канкрэтныя акцёры. Я, напрыклад, у "Ленкоме" чатыры разы глядзеў "Блазна Балакірава", двойчы – "Утаймаванне свавольнікаў", з задавальненнем пераглядзеў бы "Матылька" ў тэатры-майстэрні Фаменкі. Так і шмат хто з масквічоў. Для беларускага ж (нават мінскага) гледача наведванне тэатра ў большасці выпадкаў – гэта падзея, а не норма. Хаця Мінск не сказаць каб быў абдзелены ў плане тэатральнага жыцця. Возьмем якую-небудзь газету з тэатральнай афішай: Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета, Нацыянальны тэатр, Дзяржаўны музычны тэатр, Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр, Рускі тэатр, Тэатр беларускай драматургіі, Тэатр-студыя кінаакцёра, Маладзёжны тэатр эстрады, Тэатр юнага гледача, мінскі драмтэатр "Дзея Я?", Малы тэатр у ДК прафсаюзаў... І ўсё ж, і ўсё ж...

У Маладзечне ёсць некалькі соцень сапраўдных тэатралаў, іх колькасць павялічваецца. Зала аблдрамтэатра ніколі не пустуе. Радуе, што і ў ДК чыгуначнікаў спектаклі таксама праходзяць з аншлагам. Значыць, тэатр запатрабаваны і ў нас.

**— А вы, спадар Андрыян, "пакруціліся", як кажуць, у асяроддзі маскоўскіх акцёраў і рэжысёраў? Як яны жывуць?**

Зноў жа не буду казаць за ўсіх. Ёсць вельмі багатыя і вельмі бедныя тэатры. Марк Захараў – вельмі ўмелы і таленавіты прадзюсер. У многім дзякуючы яму "Ленком" і існуе ў цяперашнім стане. Адзін спектакль прыносіць у сярэднім 10 тысяч долараў. Кожны чалавек атрымлівае свой акцёрскі мінімум у памеры 4500 расійскіх рублёў ды даплаты за занятасць, папулярнасць і г.д. А таму сярод акцёраў сустракаюцца і добра забяспечаныя людзі, якія шмат што могуць сабе дазволіць.

І тут я хачу ў нейкай меры "развянчаць" міф аб "багемным жыцці", аб вясёлых вечарынках пасля спектакляў, п'янках. Ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі, барацьбы за гледача гэта проста недапушчальна. Гэта шлях да занападу, шлях у нікуды. "Ленком" сёння, напэўна, самы цвярозы тэатр у Расіі. І вялікая заслуга ў гэтым Марка Захарава. Прыемна паглядзець на такіх "зорак", як Пяўцоў, Караченцаў, Збруеў, Абдулаў – выдатнейшая фізічная і творчая форма. Гэта акцёры-універсалы, акцёры-асобы. Тут вельмі высокая планка патрабаванняў. І калі ты ёй адпавядаеш, то значыць ты адбыўся як акцёр альбо як рэжысёр. Я вельмі задаволены, што мне пашчасціла вучыцца і стажыравацца ў такім калектыве і ў такіх майстроў сцэны.

Гутарыў Валеры МАРКЕЛАЎ.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Ці патураць?

— Мама! Мама! – нёсся над базарнай плошчай прарэзлівы дзіцячы крык. Ля дзяўчынкі, што так настойліва клікала маці, спыняліся людзі, стараючыся суцешыць, прапаноўвалі дапамогу. Малая нічога і нікога не хацела чуць. Прыціскаючы да грудзей вялікага вушастага зайца, яна клікала маму.

Тая з'явілася нечакана. Выйшла з-за палаткі, што гандлявала цацкамі. "Ку-пі!", — добра пастаўленым голасам закрычала дзяўчынка. "Ку-пі зай-ца, а то дадому не пайду!"

"Сіл няма, — звяртаючыся да натоўпу людзей, які сабрала вакол сябе крыклівая дачка, — стала тлумачыць маладая маці. Амаль кожны дзень куплю цацкі, а ёй усё мала. Такой настойлівай, хваравіта-нервовай расце, ніякага зладу з ёй няма. І калі толькі ўсё гэта пройдзе?"

"А ніколі, — уступіў у гутарку сівы дзядок, — што ўвесь час з цікавасцю назіраў за гэтай сцэнай. Будзеце патураць, ніколі не пройдзе". І, схапіўшыся за дзягу, рушыў да малой. "Я табе зараз як лупцану па тым месцы адкуль ногі растуць, не захочаш ні зайца, ні слана, —стаў ён страшыць дзяўчо. Іш, гвалт падняла, марш дадому!.."

Смешна зморшчыўшы нос дзяўчынка, на выгляд якой можна было даць не больш чатырох гадоў, наставіла перад сабой рукі і з усяго разгону як дасць дзеду ў грудзі. "Бач, не памагло, — сумеўся той. А я сваіх траіх пры дапамозе гэтай штукі ў людзі вывеў".

Што тут можна сказаць. Нават у адной сям'і дзеці не бываюць аднолькавыя. Яны не могуць расці і развівацца па нейкай адзінай для ўсіх раз і назаўсёды выведзенай формуле. Узроставыя пераходы бы той дзеючы вулкан, з кратэра якога вывяргацца і лава, і небяспечныя камяні. Псіхолагі кажуць, што пужацца не трэба. Важна ва ўсім разабрацца, уважліва прыслухацца, улавіць надыходзячыя ў дзіцячай душы перамены, пастарацца знайсці агульную мову.

"Як можна было выхаваць такое паслухмянае дзіця, ды яшчэ без мужа, адной?", — часта пыталіся ў маёй знаёмай. Яна няўпэўнена паціскала плячыма і толькі сваім добрым знаёмым расказвала, што з чатырох гадоў адносіцца да сына, як да дарослага чалавека. Расказвае яму пра свае праблемы, цяжкасці, раіцца як быць у той, альбо іншай сітуацыі. Разам яны мыюць бялізну, ходзяць у магазіны, размяркоўваюць сямейны бюджэт. Пры гэтым маці ніколі не імкнулася выхаваць у яго сляпое паслушэнства. Заўсёды тлумачыла прычыны сваіх патрабаванняў, знаходзячы даходлівыя і важкія аргументы.

Яе сыну ўжо 17. За гэты час жанчына ні разу не пачула ад яго патрабавальнае: "Дай!". "Мама, ты можаш купіць?", — пытаецца хлопец, калі яму што-небудзь трэба. Атрымліваецца, абнову спраўляюць. Не, адкладваюць да зарплаты, авансу. У гэтай сям'і не патураюць, тут проста паважаюць адно аднаго.



Разважала Марына СЛІЖ.

■ АГЛЯД

# Часопісы для ўсіх

**Гарадскія бібліятэкі атрымоўваюць вялікую колькасць перыядычных выданняў. Акрамя даўно знаёмых «Мурзилки» і «Вясёлкі», з'яўляюцца на паліцах часопісы з новымі назвамі: «Классный журнал», «Розовый слон», «Мир техники для детей», «Вы и ваш компьютер».**

«Классный журнал» запрашае малых чытачоў наведаць дэтэктыў-клуб і дапамагчы ў расследаванні крымінальных спраў. Аўтары часопіса расказваюць пра новы дыснееўскі мультфільм «В поисках Немо», чым у вольны час займаюцца удзельніцы гурта «Фабрика» і аб чым у дзяцінстве марыла Глюкоза. Часопіс прапануе навіны з усяго свету, інфармацыю пра камп'ютэрныя гульні, а таксама пра кіна-, відэа- і DVD-прадукцыю.

Больш падрабязна пра камп'ютэрныя гульні, Інтэрнэт і новыя тэхналогіі ў камп'ютэрным свеце расказвае часопіс «Вы и ваш компьютер». На старонках нумароў, што выйшлі з пачатку года, можна знайсці адказы на пытанні: як працаваць з антывірусам Касперскага — адной з самых вядомых антывірусных праграм? (№1 за 2004 год); што такое рэйд-масіў? (некалькі цвёрдых дыскаў, якія забяспечваюць захаванасць вашай інфармацыі. Падрабязнасці — у №2).

Аўтамабілі, караблі, авіяцыя. Гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы на гэтыя тэмы вы знойдзеце на старонках часопіса «Мир техники для детей». А таксама даведаецеся аб гісторыі крэйсера «Варяг», аб трансаўстралійскім ралі сонцамабіляў, аб тым, якімі бываюць рэактыўныя рухавікі.

Зімовы сад у кватэры? Лёгка! Стварыць яго гаспадыням дапаможа часопіс «Наша усадьба». Ён падкажа, што падорыць жанчыне зграбнасць і здароўе, якая чарэшня самая смачная, і адкажа яшчэ на мноства пытанняў.

**Для самых маленькіх выдаюцца часопісы «Качели», «Микки Маус», «Том и Джерри», «Познайка», для падлеткаў — «Штучка», «Маруся», «Ровесник», «COOL». Усе гэтыя і некаторыя іншыя выданні можна пачытаць у бібліятэцы «Верасок» (Вялікі Гасцінец, 121).**

Дзіна ПЯТРОЎСКАЯ.

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Засеем стадыён

**ВІЛЕЙКА. Сёння Вілейскі гарадскі стадыён нагадвае пераараное поле.**

– За некалькі дзесяткаў гадоў эксплуатацыі, гаворыць старшыня райспорткамітэта Віталь Вайда, – футбольнае поле прыйшло ў поўную непрыгоднасць. Таму вырашылі "адрамантаваць". Знялі стары дзёран. Купілі 260 кілаграмаў насення "спартыўнай" травы коштам болей за тры мільёны рублёў. Сеяць будзем малагабарытнай нямецкай сеялкай, якую дасць Вілейскі сортаўчастак.

Два сезоны, пакуль не сфарміруецца паўнацэнная каранёвая сістэма, гуляць на полі стадыёна будзе нельга. Затое ў будучым, спадзяецца Віталь Вайда, віляйчане будуць мець футбольнае поле еўрапейскага ўзроўню.

Ігар КІЦІКАЎ.


"Пасяўная" прыйшла на футбольнае поле Вілейскага стадыёна. Больш за 3 мільёны рублёў выдаткаваў гарадскі спартыўны камітэт на набыццё насення спецыяльнай "спартыўнай травы". Фота Ігара КІЦІКАВА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 3.6 руб. | 10.6 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2153,00 | 2156,00 |
| Еўра | 2642,27 | 2631,51 |
| Злоты | 567,40 | 572,34 |
| Літ | 765,32 | 762,11 |
| Расійскі рубель | 74,11 | 74,26 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2145/2165 | 2145/2165 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.6 | 9.6 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2200 | 2200 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1150 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Морква, 1 кг | 300 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 2700 | 2900 |
| Апельсіны, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Клубніцы, 1 кг | 7500 | 6300 |
| Чарэшні, 1 кг | 7000 | 3800 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2300 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 1800 |
| Сала, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | 1500 |
| Бульба малад., 1 кг | 3900 | 2800 |



■ ПАДПІСКА

# Будзь у нашай кампаніі!

**Ідзе падпіска на "РГ". Не забудзьце падпісацца на выданне, якое не заўсёды можна набыць у шапіках "Белсаюздруку" або гандляроў. Падпіска – гарантыя пастаяннай сувязі з газетай.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ 63212 (63369) (індэкс выдання)

Рэгіянальная газета — Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара — 63212 (63369) (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА НА ГАЗЕТУ Рэгіянальная газета

Кошт падпіскі — Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

■ ДА 60-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# Па месцах памяці



Падлеткі з «Юнага дэсантніка» паказалі свае здольнасці ўдзельнікам аўтапрабегу – голымі рукамі і нагамі ламалі сілікатныя блокі, ахопленыя полымем. Фота Ігара КІЦІКАВА.

**5 чэрвеня ў рамках правядзення месячніка абаронча-патрыятычнай і спартыўнай работы, прысвечанага 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прайшоў аўтапрабег па маршруце г. Маладзечна – Радашкавічы – Краснае – Маладзечна – Вілейка – вёска Любань – Мядзел –Нікольцы – аздараўленчы лагер "Зубраня" – Чарэмшыцы (партызанскія базы) – Іжа – Вілейка – Маладзечна.**

Галоўным арганізатарам аўтапрабегу выступіў Маладзечанскі ДТСААФ. У аўтапрабегу ўдзельнічала 230 чалавек на 6 аўтобусах і на каля 10 легкавіках. Сярод удзельнікаў былі ветэраны, выхаванцы клуба "Юны дэсантнік" з Маладзечна, ваенны аркестр вайсковай часці з Маладзечна, маракі з расійскай вайсковай базы ля Вілейкі...

Па маршруце аўтапрабегу праходзілі мітынгі, удзельнікі акцыі ўскладалі кветкі на магілы загінуўшых у вызваленні Беларусі.

На часткова рэстаўрыраванай партызанскай базе ля Чарэмшыцаў былы сакратар Куранецкага падпольнага райкама камсамола жыхарка і ганаровая грамадзянка Вілейкі Ганна Андрэева расказала, як яна, у ваенны час яшчэ маладая дзяўчына, за ноч праязджала дзесяткі кіламетраў на сваім баявым кані "Орліку", збіраючы інфармацыю пра дыслакацыю фашыстаў.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**




Былы сакратар Куранецкага падпольнага райкама камсамола жыхарка і ганаровая грамадзянка Вілейкі Ганна Андрэева ля памятнага знака на месцы былой партызанскай базы на Мядзельшчыне паблізу нарачанскай вёскі Чарэмшыцы. Фота Ігара КІЦІКАВА.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Яда ў гэтым лагеры была яшчэ горшая, чым у папярэднім, а нейкі час мы зусім галадалі, бо не давезьлі прадуктаў. Не хапіла хлеба й бульбы. Давалі нейкую мутную поліўку тры разы ў дзень і кавалачак хлеба поўнага калючых асьцюкоў. Голад дакучаў страшна. Кладучыся спаць усьміхалася я да сябе ў духу, што пасьля ночы дастану зноў поліўкі й кавалачак калючага хлеба.

У гэтым лагеры перажыла я штосьць і вельмі прыемнае. Аднойчы, прыйшоўшы з працы, кінулася я змучаная на нары, каб адпачыць, але ня доўга ляжала. Нейкая сіла сарвала мяне з нар і накіравала ў санчасьць, у якой ніхто мяне ня знаў; бо як я раней пісала, дала сабе слова не хадзіць туды дарма. Цяпер увайшла я, гляджу, сядзіць некалькі чалавек у ёй, а між імі нейкі вайсковы, ахвіцэр. Падышла я да яго й кажу: „Гражданин доктор (адкуль я ведала, што гэта доктар, ня ведаю), я не больная, но очень устала и прошу мне дать один день отдыха".

Доктар сказаў мне разьдзецца, выслухаў мяне й адазваўся: „Вы просіце адзін дзень оддыха, а я вам даю яго два тыдні". Падумала я, што ён себе з мяне жартуе й не магла нічога зразумець. Як гэта ёсьць, калі я была сапраўды хворая, не давалі мне аднаго дня вольнага, а тут кажа адпачываць два тыдні! Гляджу на яго й вушам ня веру, не краняюся зь месца. А ён кажа: „Адзявайцеся й заўтра на работу не выходзьце!"

Вярнулася я ў барак і расказала пані Ірэне Гузар (яна цяпер жыве ў Польшчы) аб тым, што мяне спаткала ў санчасьці. Гавару: „Сама ня ведаю, выходзіць мне заўтра на работу, ці не? Пасьмяяліся нада мною ў санчасьці, ці сапраўды далі „оддых?" А яна кажа: „Сёньня ўсіх слабейшых клікалі ў санчасьць і давалі два тыдні адпачынку, так што й вам далі — на работу заўтра можаце не выходзіць."

А я нічога аб гэтым ня ведала. Хто мне падказаў пайсьці тады да лекара, якая сіла сарвала з нараў і завяла ў санчасьць?

Была вясна, прыгожая пагода, а я адпачывала. Сядзела перад баракам на сонцы й нічога не рабіла. У тым часе атрымала першую пасылку ад цёці Гэлькі, у якой была цёплая хустка, лыжка, сала й сухаркі. Адпачынак і пачка мяне падтрымалі. Пасьля двух тыдняў прадоўжылі мой адпачынак яшчэ на столькі-ж часу.

У гэтым лагеры пазнаёмілася я з Анеляй Дзевульскай, дачкой прафэсара Віленскага унівэрсытэту, вельмі прыгожай і добрай жанчынай. Асабліва цярпліва пераносіла яна ўсе цяжкасьці лагернага жыцьця. Пазнала Галіну Кобяк з Баранавіч, якая як і я хварэла гіпэртаніяй і не дачакалася волі. У лагеры памерла. Зь ёй я была вельмі блізка й пасьля яе сьмерці вельмі перажывала й плакала. Запрыязьнілася я тут з савецкай Беларускай-геаграфам Марыяй Івановай, асуджанай на 25 гадоў лагера. Яна нягледзячы на гэта не расставалася з партрэтам Сталіна!

Пасьля адпачынку пачала я зноў цяжка працаваць. Вясна хутка мінула й настала гарачае лета. Лета на Сібіры страшнае, бо зь яго прыходам паяўляюцца камары й машкара, ад якой густое паветра. Выходзячы з барака трэба надзяваць на галаву накамарнік, а ўсё роўна машкара праз малыя дзірачкі пераходзіць і кусае так моцна, так балюча. Укушанае месца пачынае пячы, чырванець і пухнуць. І хадзілі мы з апухлымі тварамі, рукамі, нагамі. А жара невыносная. Хацелася піць, а вады не было. Усе мы ў штанах доўгіх, рубашках з доўгімі рукавамі і ў велізарных камашах на гумовай падэшве, якія з ног спадалі. Нам заўсёды прывозілі боты прызначаныя для мужчын, а да мужчын траплялі малыя жаночыя нумары. Яны мучыліся ў цесным абутку, а мы ў завялікім (я едучы з лагера дамоў спаткала мужчын, яны мне расказалі, як іх абувалі). Каб машкару адагнаць, плялі мы з галінак дрэў вянкі й надзявалі іх на галаву. Ідучы так пяцёркамі я часта думала, чаму нас ніхто не сфільмуе і ў кіно не пакажа. Ці хто ўяўляе, як мы выглядалі?

Былі ў нашым лагеры машкі, якія працавалі адказаліся. Гаварылі: „Не будзем працаваць на сатану." Саджалі іх у карцар, мучылі, і гэта не памагала. Стражнікамі былі людзі спэцыяльна вышкаленыя — садысты, якім прыемнасьць давала зьдзекавацца над безабароннымі. Помню, як вывелі з карцара манашку з кайданамі на руках і далучылі да нашай брыгады. Старой яна ўжо была. Пайшла з намі ў лес, а працаваць не хацела. Стражнік пастанавіў прымусіць яе да работы. Пачаў над ёю зьдзекавацца. У лесе было многа машкары й камароў, а ён загадаў ёй зьняць кашулю, накамарнік, узяць у рукі калодку й хадзіць па пляцы ўкруг.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

**Працяг будзе.**

## БТ у Расіі

**МІНСК. У шэрагу рэгіёнаў Расіі пачалося тэставае вяшчанне праграм Беларускага тэлебачання.**

Як паведаміў намеснік міністра інфармацыі Беларусі Сяргей Булацкі, тэставае вяшчанне праграм Першага нацыянальнага тэлеканала Беларусі праходзіць у кабельных сетках Уральскага рэгіёну, Краснадарскага краю і Ленінградскай вобласці Расіі. Паводле яго слоў, такая магчымасць з'явілася пасля таго, як «у маі праграма Першага нацыянальнага тэлеканала была паднятая на спадарожнік». «Праграму могуць прымаць індывідуальныя абаненты і аператары кабельных сетак на тэрыторыі ад Лондана да Ашхабада і ад Уральскіх гор да, прыблізна, Германіі», — сказаў Сяргей Булацкі.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН.**

# Маліна лясная і садовая

**Ягады лясной маліны хоць і дробныя, але дыхаюць нейкім асаблівым водарам, маюць прыемны смак, а садовай – больш буйныя, не так пахнуць і, здаецца, не такія салодкія...**

Самая вядомая на зямным шары — маліна чырвоная. Яна ўключае больш за 120 відаў. У Еўропе найбольш распаўсюджаная маліна звычайная.


Маліна – крыніца вітамінаў.

Фота ByMedia.Net

## Дзікарослая маліна

Яе яшчэ называюць малінай лясной. Амаль заўжды сустракаецца на абочыне лясной дарогі, на дзялянцы, дзе высеклі дрэвы. Гэта кустарнік з сямейства ружакветкавых, вышыня да 1,5 м. У Беларусі маліна цвіце ў чэрвені-ліпені, пладаносіць у жніўні.

Збіраюць плады лясной маліны толькі спелыя і здаровыя ў першай палове дня ў сухое надвор'е. Ягады пераважна сушаць. Спачатку падсушваюць на сонцы, а потым дасушваюць ў печы ці ў духоўцы пры тэмпературы 35-40 градусаў, але не вышэй за 50. Высушаныя плады захоўваюць у мяшочках з тканіны ў сухіх, добра вентылюемых памяшканнях. Трэба перыядычна правяраць, каб плады не зляжаліся.

Каб пазбавіцца ад лічынак малінавага жука, ягады змяшчаюць у 1-2-працэнтны раствор паваранай солі (10-20 г на 1 л вады). Лічынкі ўсплываюць і іх лёгка сабраць лыжкай. Затым ягады апаласкваюць халоднай вадой і падсушваюць. Калі ягады чыстыя і здаровыя, іх лепш не мыць. З маліны вараць варэнне, кампоты, робяць сіропы.

## Ад маліны дзікарослай да садовай

Акультурванне дзікай маліны пачалі ў XVII стагоддзі, а найбольш актыўна – у XIX, калі англійскія селекцыянеры вывелі яе буйнаплодныя і ўраджайныя сарты.

Размнажаюць маліну карнявымі атожылкамі, а некаторыя сарты і ўкараненнем верхавін. Насеннем размнажаюць толькі селекцыянеры для вывядзення новых сартоў. Паколькі маліна самаплодная, то дастаткова выбраць адзін, на крайні выпадак 2 ці 3 сарты, і пасадзіць на ўчастку ці як ахоўную зялёную паласу. Штогод трэба выразаць слабыя парасткі, а зімой трэба прыціскаць парасткі да зямлі, каб засыпаць снегам. Вясной прывязаць да калкоў ці да нацягнутага дроту. Маліна цвіце позна, а таму замаразкі ёй не страшныя.

Кажуць, што лясная маліна больш накоплівае радыенуклідаў, чым садовая. Але гэта не зусім так. Яна, як суніцы і ажыны, адносіцца да сярэдняй накапляльнасці радыяцыі. Можна збіраць яе пры шчыльнасці забруджвання да 5 Кu/кв.м. Пры гэтым трэба мець на ўвае, што любыя расліны больш накопліваюць радыенуклідаў на вільготных месцах і на глебах, якія бедныя пажыўнымі рэчывамі.

А на дачных і прысядзібных участках, якія размешчаныя ўздоўж чыгункі і аўтамабільных дарог, паблізу палёў, якія апрацаваны ядахімікатамі, зялёныя расліны (у тым ліку і садовая маліна, нават больш, чым лясная) паглынаюць шмат шкодных для арганізма чалавека рэчываў.

## Чорная маліна

Усё часцей на дачных участках можна ўбачыць маліну з чорнымі ягадамі. Некаторыя прымаюць яе за ажыну. Але ў чорнай маліны няма своеасаблівага паху, і ягады ў яе адрываюцца не як у ажыны разам з пладаножкай, а аддзяляюцца ад яе як у чырвонай маліны. Гэта маліна завезена ў Еўропу з Паўночнай Амерыкі і называецца ажынападобная чорная. Атрымалася яна, мяркуюць вучоныя, ад скрыжавання маліны чырвонай з ажынай.

Лісце ў чорнай маліны цёмна-зялёнае, як і ў ажыны. Кусты дасягаюць вышыні 3 м і патрабуюць падвязкі. Не даюць атожылкаў, чым аблягчаюць уход за раслінамі. Парасткі жывуць тры гады, пакрываюцца вострымі калючкамі. Ягады больш буйныя, чым у ажыны, сабраныя ў вялікія гронкі, салодкія з невялікім адценнем. Вельмі транспартабельныя, шчыльныя, не цякуць, прыгодныя для любой перапрацоўкі і рэалізацыі.

Найбольш удачны спосаб размнажэння – укараненне верхавін. Для гэтага маладыя парасткі пры дасягненні імі 1 м прышчыпваюць. У выніку з'яўляюцца бакавыя парасткі, якія вельмі хутка растуць (10-15 см у суткі) і дугападобна нахіляюцца да зямлі. Іх у пачатку жніўня вертыкальна ці з нахілам прыкопваюць у лунку глыбінёй да 10 см. У канцы кастрычніка атрымліваюцца гатовыя саджанцы.

Ад малінавага жука расліны ратуюць уручную. Пры нападзе малінавай сцябловай мухі выразаюць маладыя парасткі ніжэй паражонага месца адразу ж, як толькі пачнуць яны вянуць. Выразаныя парасткі спальваюць.

Парасткі ў чорнай маліны адміраюць не на другім годзе, як ў звычайнай, а на трэцім, пасля пладанашэння. Тады іх выразаюць.

# Пажыўныя і лекавыя якасці маліны

На хімічны састаў маліны ўплываюць вельмі многія фактары ў залежнасці ад геаграфічных раёнаў.

У сярэднім у спелай лясной маліне ўтрымліваецца 3-5,8% цукру (глюкоза і фруктоза), 0,6-0,9% пекціну, 0,09-0,13% дубільных і фарбавальных рэчываў, 1,36-2,09% арганічных кіслот (пераважна яблычная і лімонная, у невялікай колькасці саліцылавая, мурашыная і шчаўевая). Наяўнасцю саліцылавай кіслаты і яе эфіраў тлумачыцца патагоннае і супрацьзапаленчае дзеянне маліны і прадуктаў яе перапрацоўкі, а таксама антысептычнае і супрацьрэўматычнае.

Маліна багатая клятчаткай (4,8-5,1%), якая стымулюе рухальныя функцыі кішэчніка і садзейнічае вывядзенню халестэрыну з арганізма. У маліне ўтрымліваецца ад 25 да 45 мг (на 100 г сырой масы) вітаміну С, 0,3-0,8 мг караціну, 0,6 мг нікацінавай кіслаты і 0,2-0,5 мг фоліевай. Ёсць у маліне і вітаміны В1, В2, Е, нязначная колькасць вітамінаў РР і К.

Жалеза, цынку, медзі і марганцу маліна ўтрымлівае столькі ж, колькі суніцы і чорныя парэчкі. Натрыю, кальцыю, хлору, фосфару і азоцістых рэчываў у лясной маліне больш, чым у культурнай.

У апошнія гады ў пладах лясной маліны вынайшлі стэрыны, фітастэрыны – рэчывы, якія блізкія па свайму дзеянню да вітаміна Д, якім вылечваюць рахіт у дзяцей і паляпшаюць цячэнне хваробы касцей у дарослых. Карысная маліна і пры малакроўі. Аднак у ягадах шмат пурынаў, таму яны супрацьпаказаныя хворым на падагру і нефрыт.

Пры прастудзе, вострай рэспіраторнай інфекцыі, болях у суставах, радыкуліце, ліхарадцы і неўралгіі п'юць чай з маліны. Яго гатуюць з 5-6 сталовых лыжак сухіх ягад на 3 шклянкі вады і выпіваюць 2-3 шклянкі на працягу адной гадзіны (патрэбны пасцельны рэжым).

Водны настой лісцяў прымаюць пры энтэрытах, калітах, а таксама захворваннях скуры. Палошчуць рот пры ангінах і стаматытах. Для атрымання настою 1-2 чайныя лыжкі сухіх лісцяў заліваюць шклянкай кіпеню і настойваюць да ахалоджвання. Марлю, змочаную ў настоі ці адвары кветак маліны, прыкладаюць да вугроў, прыкладаюць і вынятыя з настою кветкі. Для лячэння вугроў робяць таксама мазь з соку, адціснутага са свежых лісцяў — 1 частка соку змешваецца з 4 часткамі несалёнага сметанковага масла і прыкладаецца да вугроў. Прымочкамі з адвару лісцяў лечаць гемарой і рожыстае запаленне. Настоем з лісцяў маліны ратавалі людзей ад укусаў ядавітых змей і павукоў, а сокам з кветак выводзілі вяснушкі. Парашком з сухіх лісцяў прысыпаюць нарывы і язвы, пухліны пры рожыстым запаленні.

Ёсць і яшчэ адна станоўчая якасць у маліны. Печнікі, калі робяць печы, кладуць яе лісце ў гліну. Тады ў напаленым памяшканні будзе доўга захоўвацца прыемны водар.


Аграном Альбін МАКАРЭВІЧ.

## Зачараванае ўрочышча

**Ужываць спіртное ў гэтым месцы лічылася небяспечным. Па народным паданні, нячысцік вадзіў п'яных людзей кругамі, не даючы выбрацца з лесу.**

Гаворка ідзе пра ўрочышча Шальціна, што на самай мяжы Літвы і Ашмянскага раёна. Паблізу знаходзіцца вёска Кемяны. З крыніцы ва ўрочышчы пачынаецца рака Вільня, прыток Віліі. Раней крыніца лічылася святой, а вада, па народных павер'ях, дапамагала пры хваробах вачэй. Дарэчы, хімічны састаў вытокаў Вільні і Віліі – амаль аднолькавы. Гэта выдатная сталовая вада, якая можа некалькі год знаходзіцца ў зачыненым посудзе. І не псуецца.

Людзі засялілі гэтыя мясціны ўжо паўтары тысячы год таму. Ля вытокаў Вільні знаходзяць гліняны посуд, кераміку, вырабы з жалеза. Мяркуюць, што раней тут было паганскае свяцілішча. А ля крыніцы бачылі дзяўчыну з белымі валасамі. Хто яго ведае. Можа, з-за гэтай бландзінкі п'яныя мужыкі і не спяшаліся дадому?

Алег БЯГАНСКІ.

■ ЦУДЫ ПРЫРОДЫ

## Дрэвы парадніліся

**МАЛАДЗЕЧНА. Убачыць гэту незвычайную "сям'ю" можна ля вёскі Лебедзева. Тут жа знаходзіцца і помнік ахвярам Чарнобыля, што быў пастаўлены перасяленцамі з пацярпелых раёнаў у 2000-м годзе.**

Увогуле, выпадкі, калі дрэвы зрастаюцца ствaламі, даволі рэдкія, хаця і унікальныя. Тут усё залежыць ад збегу абставін. Мабыць, у дадзеным выпадку, кара аднаго дрэва была чымсьці пашкоджаная. І ў гэту рану прарасла галінка суседа. Як бы там ні было, але цяпер тыя дзве зялёныя жывыя істоты дапамагаюць адна адной супрацьстаяць прыроднай стыхіі. А можа, тут прырода дае прыклад узаемадапамогі нам, людзям?

Алег БЯГАНСКІ.


Таполі зрасліся ствaламі. Унікальная "парачка" ля Лебедзева.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

# Чаго мы баімся

**З наступленнем цёплых дзён абуджаецца не толькі прырода, але і нашы эмоцыі. Прычым не толькі станоўчыя кшталту кахання, але таксама адмоўныя, такія, як страх.**

Вучоныя спрачаюцца, з'яўляецца пачуццё страху станоўчым фактарам у жыцці чалавека ці адмоўным. Адны сцвярджаюць, што яно неабходна як ахоўны механізм: той, хто нічога не баіцца, рана ці позна загіне. Страх – абарончая рэакцыя, ён указвае на небяспеку, якой трэба пазбегнуць.

Іншыя вучоныя лічаць, што страх дапамагаў выжываць чалавеку некалькі тысячагоддзяў таму. А цяпер гэтая эмоцыя перашкаджае жыць, не дазваляе асобе чалавека рэалізавацца ў поўнай меры.

Страхі, сказала ў інтэрв'ю "РГ" **Анжэла Дзяркач**, загадчыца аддзялення псіхалагічнай дапамогі і рэабілітацыі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, пачынаюць фарміравацца ад нейкага неспадзяванага перажывання, раптоўнай адмоўнай эмоцыі: перапалоху, трывогі, надзвычайнай заклапочанасці, калі здаецца, што выйсця з сітуацыі няма.



**Страхі бываюць розныя. Напрыклад, страх захварэць, страх смерці, галечы, боязь святла, вышыні. Моцная пастаянная боязь чаго-небудзь можа перарасці ў фобію – моцны страх, які не мае пад сабой рэальнай асновы.**
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Страхі бываюць розныя. Напрыклад, страх захварэць – чытаеш медыцынскі даведнік і знаходзіш у сябе сімптомы адной ці нават некалькіх хваробаў, страх смерці, галечы, боязь святла і гэтак далей.

Некаторыя страхі, патлумачыла Анжэла Дзяркач, могуць закладвацца яшчэ падчас унутрывантробнага развіцця. Калі была родавая траўма і шыю дзіцяці моцна абвівала пупавіна, то яно ўжо ведае, што такое ўдушэнне. Таму некаторыя дарослыя мужчыны несвядома не любяць гальштукі, жанчыны – шалікі, яны, нават не ўсведамляючы, стараюцца вызваліць шыю, каб "дыхалася вальней". Калі роды былі цяжкія і дзіця захлыналася ў родавых водах, у яго можа ўзнікнуць боязь вады.

У кожнага ўзросту – свой страх. "Практыка паказвае, — сказала Анжэла Дзяркач, – дзеці ад недастатковай увагі да іх з боку бацькоў баяцца страціць маму, падлеткі – што іх не прымуць аднагодкі. Цяжарныя жанчыны – страціць дзіця або што яно народзіцца хворае. Жанчыны таксама баяцца застацца адны. Мужчыны — адказнасці, не выканаць абавязкі здабытчыка. У пажылых людзей узнікае страх стаць непатрэбным сваякам. Страх смерці ў іх ёсць, але гэта хутчэй боязь таго, што не ўсё зрабіў у жыцці, што хацеў, не паспеў выканаць жыццёвую праграму".

У дзяцей страх смерці, па словах Анжэлы Дзяркач, узнікае тады, калі яны пачынаюць усведамляць, што ўсё на свеце жыве і памірае. Гэта адбываецца прыкладна ў 4–5 год. Псіхолагі не рэкамендуюць браць дзяцей такога ўзросту на пахаванні.

Бывае, дарослыя пераносяць свае страхі на дзяцей. Напрыклад, маме здаецца, што яе дачушка нечага баіцца, напрыклад, хуліганаў. На самой справе гэтага баіцца сама мама. Таму, перш чым весці дзіця да псіхолага, бацькам варта самім атрымаць кансультацыю спецыяліста. Аднак нават дарослыя могуць не ўсведамляць свой страх.

Калі чалавек баіцца і не гаворыць пра гэта, ён можа выклікаць тым самым у сябе сур'ёзныя захворванні нервовай сістэмы, сэрца, страўнікава-кішачнага тракту. Неабавязкова мець спадчынную схільнасць да такіх хваробаў, іх можна атрымаць як рэакцыю арганізма на нявыражаныя пачуцці і эмоцыі. Выраз "памерці ад страху" – не перабольшанне. "Калі чалавека моцна спалохаць, — патлумачыла Анжэла Дзяркач, — у яго павышаецца артэрыяльны ціск, можа здарыцца інфаркт міякарда – і чалавек памірае".

Моцная пастаянная боязь чаго-небудзь можа перарасці ў фобію – моцны страх, які не мае пад сабой рэальнай асновы. Фобіі – следства псіхічнага захворвання, неўрозу, фізічнага або разумовагаператамлення. Часцей фобіі бываюць у людзей са слабай воляй, схільных да назойлівых эмацыйных станаў, думак.

Некаторыя фобіі, сказала Анжэла Дзяркач, могуць узнікаць і ў людзей псіхічна здаровых: боязь цемры, вады, вышыні. Увогуле калі чалавек гаворыць: "Я ніколі нічога не баюся", — гэта выклікае непакой. Гэта, на думку псіхолагаў, значыць, што або ён патэнцыяльна гатовы да самазабойства, або ў яго зніжаны інстынкт самазахавання.

Справіцца са страхам можна і самастойна. Але калі на гэта не хапае сілы волі ці здольнасцей, варта звярнуцца да псіхолага. "Існуе стэрэатып, — сказала Анжэла Дзяркач, — што псіхолагі працуюць з псіхамі. Гэта памылковае ўяўленне. Псіхолагі працуюць з нармальнымі людзьмі, у якіх ёсць жыццёвыя праблемы".

**Святлана ЦІШКО.**

■ КУДЫ ЗВЯРТАЦЦА

## Псіхалагічная дапамога

Псіхалагічную дапамогу ў Маладзечне можна атрымаць па тэлефоне 003, 3-01-87, у Смаргоні – па тэлефонах 2-20-00, 2-21-63. У Вілейцы – у псіхатэрапеўта гарадской паліклінікі, у Валожыне і Мядзелі ў паліклініцы працуюць псіхіятры, у Астраўцы ў дзіцячай кансультацыі і аддзяленні аднаўленчага лячэння тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання – псіхатэрапеўт, у Ашмянах у фізіятэрапеўтычным аддзяленні паліклінікі таксама ёсць псіхатэрапеўт.

■ УНУТРАНЫ СВЕТ

## Вялікія вочы страху

**Страх – пачуццё (эмоцыя), якое паралізуе чалавека ці прымушае яго да актыўных дзеянняў (чалавек ратуецца ўцёкамі, але пазбаўлены арыенціроўкі: без пэўнага кірунку, не выбіраючы шляху). Страх узнікае, калі ў чалавека недастаткова звестак для таго, каб абараніць сваё жыццё. Гэта пачуццё, якое падуладнае нам. Наогул, кожны чалавек пакутуе ад рознага роду страхаў.**

"Я ўсё жыццё, — неяк дзялілася са мной мая знаёмая, — наколькі сябе памятаю, пакутавала ад страху, невядомага для мяне. Мне страшна было і днём, і ноччу менавіта ў кватэры ад таго, што хтосьці, магчыма, знаходзіцца побач. Да таго ж яшчэ бабуля на ноч мне расказвала жудасныя казкі пра людаедаў. Людаеды неяк хутка перасталі мне быць страшнымі, а вось нешта нязведанае доўга яшчэ пужала. Мне сорамна было каму-небудзь прызнацца ў гэтым. Потым я шмат чытала пра паралельныя светы, пра розных насельнікаў, розных там пачвар, пра жыццё па-за смерцю і пра пакуты ў пекле. Мне трапляласся літаратура менавіта на гэту тэму. І неяк страх пакінуў мяне. Я наогул перастала ўсяго баяцца. І нават мае знаёмыя сталі здзіўляцца, ці не страшна мне жыць адной, калі мой сусед павесіўся. Са стратай страху пачалі адбывацца станоўчыя перамены і ў маім уласным жыцці".

Страх застацца без сродкаў на існаванне прымушае нас выконваць работу, якая не прыносіць нам ні маральнага, ні матэрыяльнага задавальнення. Страх "мяне ніхто не любіць" прымушае рабіць учынкі, якія зусім не ўпрыгожваюць чалавека. Ён становіцца невыносным, сварлівым, прыдзірлівым. У аснове рэўнасці таксама ляжыць страх, няўпэўненасць ў сабе ці няўменне кахаць. Але галоўнае, што з намі здараецца тое, чаго мы баімся. Мы сваім страхам прыцягваем да сябе негатыў: падобнае прыцягвае падобнае.

Страх мае і станоўчыя рысы. Напрыклад, спосаб кадзіравання ад алкагалізму, падшывання заснаваны менавіта на страху. Чалавек нейкі час баіцца, што ён памрэ пры ўжыванні напояў, якія ўтрымліваюць алкаголь. Але ж страх можна перамагчы...

Дзесьці чытала, што дзеці да 5 гадоў бачаць тое, чаго мы, дарослыя, ужо не можам бачыць, ад гэтага яны часта плачуць.

Адначасова і шкада, што шмат хто з нас наогул страціў пачуццё страху, бо ці былі б тады ў нас такія людзі, якія прыходзяць ноччу і разбураюць помнікі на могілках. Ці здольныя забіць чалавека за любую суму грошай. Што імі кіруе, якое пачуццё? Беспакаранасць? Мабыць, у іх іншага роду страхі, іншыя пакуты?

Галоўны страх знаходзіцца ўнутры нас – у няведанні, неразуменні свету, неразуменні таго, што адбываецца, у няправільных паводзінах, якія незаўважна прыводзяць да распаду чалавека.

**Алена УРБАНОВІЧ.**

■ ТЭСТ

# Ці не залішне часта вы трывожыцеся?

**1**. Ці становіцца вам не па сабе, калі вы знаходзіцеся ў поўнай цемры, да таго ж і ў адзіноце?
**2**. Ці лічыце вы, што ў вас вельмі шмат абавязкаў?
**3**. Ці хвалюе вас тое, што думаюць пра вас навакольныя?
**4**. Ці часта вы ўздрыгваеце, калі звоніць тэлефон?
**5**. Ці хвалюецеся вы па дробязях?
**6**. Ці хвалюецеся вы па грашах?
**7**. Ці моцна вы хвалюецеся з-за таго, што прапускаеце свой прыпынак, калі едзеце ў транспарце?
**8**. Ці пакутуеце вы ад бяссонніца з-за таго, што вас нешта турбуе?
**9**. Ці маеце вы калі-небудзь патрэбу ў снатворным?
**10**. Ці здаралася вам калі-небудзь піць заспакаяльныя лекі?
**11**. Ці лічыце вы сябе скаваным?
**12**. Ці дрыжыць у вас голас, калі вы злуяцеся ці вельмі хвалюецеся:
**13**. Вы часта саромееецеся?
**14**. Ці лёгка вы расслабляецеся?
**15**. Вы схільныя ў большай ступені да трывогі, чым большасць знаёмых вам людзей?
**16**. Ці прызнаяце вы, што амаль заўсёды аб чым-небудзь ды трывожыцеся?
**17**. Ці лёгка вы расстройваецеся?
**18**. Ці пакутуеце вы калі-небудзь ад "прыступаў панікі"?
**19**. Ці ахоплівае вас калі-небудзь жаданне усё кінуць і збегчы?
**20**. Ці пакутуеце вы ад якіх-небудзь недамаганняў, напрыклад, нястраўнасці, высыпкі на целе і г.д., якія ўзрастаюць ад напружання ці стрэсу?
**21**. Ці часта вас раздражняе шум?
**22**. Ці раздражняюць вас дробныя адміністрацыйныя патрабаванні?
**23**. Калі вам не шанцуе, то ці расстройваецеся вы?
**24**. Ці расстройваецеся вы, калі над вамі смяюцца?
**25**. Ці правяраеце вы па некалькі разоў перш чым ляжаце спаць, ці закрыты ўваходныя дзверы?
**26**. Ці хвалюецеся вы перад тым, як ісці на вечарынку ці ў госці?
**27**. Калі да вас збіраюцца прыйсці вашы сябры, ці шмат часу вы траціце на тое, каб прыгатаваць усё для прыёму?
**28**. Ці лёгка вы чырванееце?
**29**. Вам не падабаецца знаёміцца з новымі людзьмі?

**Калі будзеце падлічваць ачкі, майце на ўвазе, што ва ўсіх пытаннях, акрамя 14, за адказ "так" – 1 ачко, за адказ "не" – 0. У пытанні 14: за адказ "так" – 0 ачкоў, за адказ "не" – 1 ачко.**

**10 ачкоў і больш**. Вы сапраўды моцна за ўсё перажываеце. Чым больш у вас ачкоў, тым больш трывогі. Ваш склад розуму паказвае, што вы асабліва схільныя да стрэсу і напружання. Вы не можаце змяніць вашу схільнасць да трывогі, але можаце ў значнай ступені сябе засцерагчы, калі навучыцеся расслабляць свой розум і сваё цела і якім-небудзь чынам пазбаўляцца ад страхаў. Адзін з самых простых спосабаў расслабіць ваш розум – гэта навучыцца марыць. Калі ў вас ёсць трохі вольнага часу, прыляжце дзе-небудзь у ціхім месцы і закрыйце вочы. Уявіце, што вы ляжыце на цёплым, сонечным пляжы, чуеце гукі хваляў і адчуваеце на сваім целе цяпло сонечных прамянёў. Няхай ваш розум і ваша цела цалкам расслабяцца. Калі толькі вы зможаце авалодаць гэтым спосабам расслаблення, вы зможаце справіцца са шматлікімі стрэсавымі сітуацыямі, выкарыстоўваючы для гэтага пры расслабленні карціны свайго ўяўлення.

**Ад 4 да 9 ачкоў**. Нягледзячы на тое, што вы ў дастатковай ступені валодаеце сабой, вы ўсё ж схільныя да трывогі. Вы зможаце ўмацаваць сілу свайго духа, калі навучыцеся цалкам расслабляцца.

**3 ачкі ці менш**. Вы цалкам у згодзе з сабой і можаце адолець большасць праблем, якія ставіць перад вамі жыццё.

# Вандроўка з Камарова

**МЯДЗЕЛ. У савецкі час у прафтэхвучылішчы (цяпер — сельскагаспадарчы ліцэй) з Камарова практыкаваліся прабегі па месцах баявой і працоўнай славы. Потым гэта традыцыя прыпынілася. І вось праз некалькі год яе аднавілі: з дапамогай праграмы "Альянс Партнёрства Каунтэрпарт" правялі краязнаўчую экспедыцыю.**

Удзельнічалі ў ёй навучэнцы, супрацоўнікі сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя і вучні Камароўскай СШ. За 4 дні ўдзельнікі на аўтобусе і машынах праехалі звыш за 800 кіламетраў, наведалі аб'екты на тэрыторыі 9 раёнаў. Цікавілі іх славутыя гістарычныя мясціны, а таксама і аб'екты, звязаныя з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, паколькі экспедыцыя праходзіла пад знакам 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Вандроўка праходзіла ў два этапы. Першы — па Віцебшчыне з яе азёрамі на кожным кроку і аж чырвонымі ад гліны палеткамі. А падчас другога за вокнамі праплывалі краявіды Міншчыны і шырокія прасторы Гродзеншчыны.

Разам з краязнаўцам Іванам Драўніцкім удзельнікі наведалі багата цікавых мясцін. Гэта і старажытны Полацк, Лынтупы, Паставы, Глыбокае... Ды і вялікую частку нашага рэгіёна аб'ездзілі: пабывалі ў Мядзельскім, Вілейскім, Ашмянскім, Смаргонскім і Астравецкім раёнах. Аглядалі там храмы, сядзібы, музеі. Не забывалі пра ваенныя аб'екты.

Падчас экспедыцыі было столькі новых уражанняў! І ад знаёмстваў з гістарычнымі аб'ектамі, і ад начлегаў на прыродзе з вогнішчамі і песнямі пад гітару. І, вядома, ад сустрэч з цікавымі людзьмі — сярод іх і экскурсаводы, і святары, і проста творчыя людзі. У нашым рэгіёне вельмі цікава было пазнаёміцца з мастаком Барысам Цітовічам з вёскі Забродддзе на Вілейшчыне, які стварае мемарыял, прысвечаны першай сусветнай вайне. Запамінальная была і экскурсія па музеі-сядзібе Францішка Багушэвіча ў Кушлянах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



**Удзельнікі экспедыцыі разам з Вольгай і Барысам Цітовічамі (справа) ля макета фатаграфіі часоў І сусветнай вайны. Іван Драўніцкі трэці злева.** Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.



**Для кагосьці з дзяцей самыя моцныя ўражанні засталіся ад наведвання руінаў Гальшанскага замка, бо даўно марылі ў ім пабываць.**



**Адзін з самых маляўнічых будынкаў у Ашмянах – касцёл.** Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

■ **КАЛЯНДАР**

**15 чэрвеня. 60 гадоў назад, 15 чэрвеня 1944 года, у в.Сідараўцы Валожынскага раёна нарадзіўся Валянцін Вялічка,** кандыдат эканамічных навук, з 1999 года – першы намеснік міністра замежных спраў РБ, ад 2001 года – Надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі на Украіне. Жанаты, мае дваіх сыноў.



**Валянцін Вялічка.**

■ **ФІЛАТЭЛІЯ**

## Гісторыя чыгункі на марках

**МІНСК. 31 мая ў паштовае абарачэнне паступілі маркі з серыі «Паравозы і чыгуначныя станцыі Беларусі».**

Як паведамілі БелаПАН у выдавецкім цэнтры «Марка» рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта», на марцы наміналам 320 рублёў адлюстраваны паравоз 1-3-0 серыі «Д» і вакзал у Мастах (Гродзенская вобласць) пачатку XX стагоддзя, а на паштовай мініяцюры наміналам 870 рублёў — паравоз 2-3-0 серыі «А» і вакзал у Віцебску XIX стагоддзя.

На марках, надрукаваных накладам па 120 тыс. асобнікаў кожная, ужыты элементы абароны.

Да гэтага выпуску падрыхтаваны канверт першага дня і накладам 2,5 тыс. асобнікаў выдадзена мастацка аформленая кніжка паштовых марак, у якой знаходзіцца ліст з 12 філатэлістычнымі мініяцюрамі.

31 мая, у дзень выхаду марак у абарачэнне, на Мінскім паштамце праводзілася спецыяльнае гашэнне на канвертах першага дня.

Аўтар філатэлістычнай прадукцыі — мастак Святлана Ляхар.

**Паводле БелаПАН.**

# Як Сталін зрабіў ворагам генерала

**Іван Рухля – ураджэнец маладзечанскай вёсачкі Вялікае Сяло. Нарадзіўся 20 чэрвеня 1899 года. Пра лёс земляка, якому ў 1942 годзе было прысвоена званне генерал-маёра, — падрабязны расповед у гісторыка-дакументальнай хроніцы Маладзечна і Маладзечанскага раёна "Памяць".**

Там – і пра тое, што Іван Нічыпаравіч у час Вялікай Айчыннай вайны быў рэпрэсіраваны. Асаблівых падрабязнасцяў у цікавым увогуле нарысе, на жаль, няма.

А ў Беларускай энцыклапедыі – і ўвогуле сухія радкі, за якімі "тубляецца" жыццё. Вось што піша энцыклапедыя: "...генерал-маёр (1942). Скончыў Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Ваен.-паветр. (1933), Генштаба (1938). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадзянскай вайны 1918-20 (чаму тады з 1918? – А.К.) на Зах.фронце,



задушэння кранштацкага паўстання 1921. З 1924 нач. палкавой школы, камандзір палка, выкладчык акадэміі Генштаба. У Вял. Айч. Вайну з 1941 нам.начальніка, начальнік штаба ВПС Чырвонай Арміі, камандуючы авіягрупай Стаўкі на Бранскім і Паўд.-Зах. франтах, пам. начальніка штаба Паўд.-Зах. і Сталінградскага франтоў. Удзельнік распрацоўкі Ялецкай і Растоўскай аперацый. Да 1961 на адказных пасадах у Сав.Арміі, выкладчыцкай і навук. рабоце". Памёр 17 студзеня 1977 года.

Выпускнік трох акадэмій (і гэта – на працягу нейкага дзесяцігоддзя!), высокі штабны работнік, ён так і застаўся генерал-маёрам. Вайсковая кар'ера развіцця не атрымала. А здарылася вось што... 25 жніўня 1942 года ў 5 гадзін 15 хвілін Сталін дыктуе тэлеграму, адрасоўную яе Васілеўскаму і Маленкову. Нагадаем, хто гэта і якімі паўнамоцтвамі яны былі надзеленыя ў той час. Аляксандр Васілеўскі (1895-1977), якому ў 1943 годзе было прысвоена званне Маршала Савецкага Саюза, з чэрвеня 1942 займаў пасаду начальніка Генштаба. Выконваў даручэнні Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага па каардынацыі дзеянняў франтоў. Георгій Маленкоў, які больш за два дзесяцігоддзі займаў кіруючыя пасады ў партыі, савецкім урадзе, выконваў у Сталінградзе функцыі партыйнага назіральніка... Ім, Васілеўскаму і Маленкову, піша Сталін: "...Мяне здзіўляе тое, што на Сталінградскім фронце адбыўся гэткі ж прарыў далёка ў тыл нашых войскаў, які меў месца ў мінулым годзе на Бранскім фронце, з выхадам праціўніка на Арол. Варта адзначыць, што начальнікам штаба быў на Бранскім фронце той самы Захараў, а даверанай асобай тав. Яроменкі быў той самы Рухля. Трэба над гэтым задумацца. Альбо Яроменка не разумее ідэю другога эшалона ў тых месцах фронту, дзе на пярэднім краі стаяць неабстраляныя дывізіі, альбо мы маем тут чыюсьці злую волю, у дакладнасці інфармуемую непрыяцеля пра слабыя месцы нашага фронту...".

Заўвага пра "злую долю" адыграла сваю ролю. Супрацоўнікі асобага аддзела тут жа арыштавалі начальніка аператыўнага аддзела штаба фронту генерал-маёра Рухлю Больш за 10 гадоў правёў ён у сталінскіх канцлагерах. Дарэчы, яшчэ з 1937 года знаходзіўся ў ГУЛАГу і другі маладзечанскі военачальнік камбрыг Іван Міхалёнак. У некаторай ступені лёс быў літасцівы да іх. Прайшоўшы праз многія выпрабаванні, абодва дачакаліся смерці "савецкага Тамерлана", былі рэабілітаваныя. Міхалёнак вярнуўся ў Маладзечна, тут і памёр у 1967 годзе. Рухля яшчэ некалькі гадоў служыў у Савецкай Арміі, быў на выкладчыцкай працы. Вярнулі ранейшыя ўзнагароды (а сярод іх і два ордэны Леніна), узнагародзілі яшчэ адным ордэнам Леніна і ордэнам Чырвонага Сцяга. Памёр военачальнік у Маскве ў 1977 годзе.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

**В.А. Ігнатаву з Вілейкі**

Паважаны Валеры Аляксандравіч! Віншуем Вас з 65-годдзем. Мы заўсёды ўспамінаем час, калі працавалі ў калектыве, якім кіравалі Вы, з настальгічнай нотай у душы. Для некаторых з нас ён быў найлепшай школай прафесіяналізму і ўмення працаваць з людзьмі. Здароўя Вам і Вашым блізкім, шчасця, бадзёрасці на доўгія гады і веры ў светлае і добрае!

*Галіна Матошка, Марыя Кулік, Ніна Манцэвіч.*

**Сяргея Аляксандравіча Філістовіча** віншуем з 30-годдзем! Жадаем здароўя, кахання, удачы, вечнай маладосці. *Калектыў Прыгараднага лясніцтва.*

**Мілую жонку Таццяну і дарагога сына Мікітку** віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя і ўсяго найлепшага. *Алег Багавец.*

**Надзею Фёдараўну Мароз** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, кахання, удачы, вечнай маладосці. *Родныя.*

**Зою Радзівонаўну Пасеку** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, усмешак, дабрабыту, шмат удачы. *Муж і сын.*

Турклуб "Пілігрым" віншуе **Ганну Пятроўскую** і **Аляксандра Траццяка** з днём нараджэння. Жадае здароўя, добрага настрою, цікавых паходаў, добрых і паслухмяных удзельнікаў групы.

**Яніну Рудкевіч** віншую з днём нараджэння! Маё мілае Сонейка! Здароўя табе, поспехаў у жыцці, Боскай ласкі і апекі. *Рэгіна.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Удава, 39/160, прыемнай знешнасці, без шк/зв і ж/п, жадае пазнаёміцца з надзейным, забяспечанным мужчынам. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 314993.

Алег, 38/164, для стварэння сям'і пазнаёміцца з жанчынай без шкодных звычак. Згодзен на пераезд. 222385, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, в. Чараўкі, д.17.

Вольга, 39/164, медык, ёсць дачка, пазнаёміцца з адзінокім, сур'ёзным мужчынам. Смаргонь, галоўпаштамт, п/п КН 04410210 ці (8-029) 7867172.

Цікавая жанчына, 44/165, пазнаёміцца з прыстойным мужчынам, пажадана ўдаўцом. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 0287940.

Звычайны мужчына, 41/162/65, пазнаёміцца з простай, спакойнай, гаспадарлівай жанчынай, згоднай на пераезд, магчыма 1 дзіця. Вілейка-2, п/п МС 0315241.

Для сяброўскіх адносін пазнаёмлюся з надзейным, жыццярадасным чалавекам, мне 40/165. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 0505502.

Жанчына, 39/170/56, ёсць дачка, пазнаёміцца з добрым, самастойным мужчынам без шк/зв, з МПС не пісаць. 222310, Маладзечна-6, п/п №339602.

Мужчына, за 50 гадоў, жадае пазнаёміцца з жанчынай да 50 гадоў без дзяцей. 222310, Маладзечна-6, п/п №12984.

■ ШАШКІ

# Прапануе гросмайстар Леанід Вітошкін

Сярод нешматлікіх уладальнікаў вышэйшага спартыўнага звання па шашачнай кампазіцыі ёсць і беларусы. Гэта Уладзімір Матус (цяпер стала жыве ў Маскве) і гамяльчанін Леанід Вітошкін.

Рана пазнаёміўшыся з мудрай народнай гульнёй, захапіўся спачатку рашэннямі мудрагелістых задач, эцюдаў і камбінацый, а затым стаў спрабаваць свае сілы ў іх складанні.

Калі ў 1958 годзе ў Маладзечанскай абласной газеце "Чырвоны сцяг" пачаў выходзіць шахматна–шашачны аддзел, то сярод яго карэспандэнтаў з'явілася і прозвішча студэнта Магілёўскага педінстытута Леаніда Вітошкіна.

У 1965 годзе яму было прысвоена рэдкае званне "Майстар спорту" па шашачнай кампазіцыі. З 1970 года і да закрыцця ў 1991 годзе быў рэдактарам аддзела "Эцюды" у часопісах "Шашкі" і "Dambrete".

У чэмпіянатах СССР па кампазіцыі 3 разы станавіўся пераможцам. Чэмпіёнам Беларусі быў 22 разы. За вялікі ўклад ў развіццё шашак Вітошкіну ў 1991 годзе разам з масквічом Андрэем Фаміным прысвоена званне "Гросмайстар СССР" па шашачнай кампазіцыі. Больш такога звання няма ні ў каго – неўзабаве Савецкага Саюза не стала.

З'яўляючыся аўтарам каля 20 кніг і вучэбных дапаможнікаў па шашках, Леанід Сяргеевіч працуе над сваёй новай кнігай "Выбраныя кампазіцыі", падводзячы вынікі свайго 50–гадовага творчага шляху. Падтрымліваючы трывалую сувязь з шашачным аддзелам "Рэгіянальнай газеты", гросмайстар даслаў нам свае новыя эцюды. Яны будуць друкавацца ў некалькіх нумарах. За лепшае і дакладнае іх рашэнне ў якасці прыза будзе разыграная кніга гросмайстра з яго аўтографам. Сёння даюцца два першыя заданні.



**№1. Леанід Вітошкін. Белыя: дамкі b8, h2, простая e5 (3). Чорныя: простыя b2, e3, h4 (3). Выйгрыш.**



**№2. Леанід Вітошкін. Белыя: дамкі c7, f8, простая e3 (3). Чорныя: простыя a7, g5, h2, h6 (4). Выйгрыш.**

У абедзвюх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць. Чакаем вашых новых адказаў.

## Працягваем змяшчаць міні–партыі

"Зваротная гульня Бадзянскага". 1. c3-d4 h6-g5 2. g3-h4 b6-a5 3. d2-c3 c7-b6 4. f2-g3 b8-c7 5. g3-f4? b6-c5! 6. f4:h6. Нічога не мяняе і 6. d4:b6. 6… c5-b4 7. a3:c5 d6:f4. Белыя вымушаныя скласці зброю. Падобная камбінацыя сустракаецца і ў дэбюце "Перакрыжаванне". 1. c3-d4 d6-e5 2. b2-c3 e7-d6 3. e3-f4 b6-a5 4. f2-e3 c7-b6 5. c1-b2 b6-c5 6. d4:b6 a7:c5? 7. c3-b4! a5:c3 8. b2:b6 b8-a7 9. g3-h4! Са знаёмым ужо выйгрышам. У першай партыі патрэбна было гуляць 5. e1-f2 з прыкладна поўнай пазіцыяй.

## Зверце рашэнні. "РГ" ад 19 сакавіка

№1. 1. c5-b6 a5:c7 2. a3:c5 d6:b4 3. f4:h6 (можна 3. f4:d8 d2:h2 4. f2-g3 h2:f4 5. b8:h2х.) 3… d2:h2 4. f2-g3 h2:f4 5. h6:a5х.

№2. 1. d2-c3 b4:d2 (1… d4:b2 2. a1:a5 g3-h2 3. a5-b6х.) 2. e1:c7 g3:e1 (2… d8:b6 3. f6:a5 g3:e1 4. a1-b2 і так далей як ніжэй) 3. a1-b2 d8-b6 4. f6:a5 h4:f6 5. b2-c3 e1:b4 6. a5:g7 h8:f6 7. g1-f2х.

Правільныя рашэнні далі **Анатоль Гомза** з Вілейкі, **Леанід Жыхар** з Крывічоў, **Сяргей Матус** з Валожына.

**Анатоль РОГАЧ, кандыдат у майстры спорту.**

■ КОНКУРСЫ

# Прыз – відэакасета

Імя і прозвішча беларускай актрысы, якія вам трэба было адгадаць, **Зоя Белахвосцік**. А пераможца, якога запрашаем у рэдакцыю, – **Анатоль Занкавіч**. Прыз – відэакасету – можна атрымаць у Маладзечне ў пунктах продажу аўдыё- і відэатавараў у магазінах "Пасаж", "Дзіцячы свет", на калгасным рынку і міні-рынку "1000 дробязяў".

**Наступнае заданне**. Выбіраеце з прапанаваных да кожнага пытання адказаў правільны. З першых літар слоў-адказаў складаеце слова. Сёння гэта імя (пытанні 1-7) і прозвішча (пытанні 8-15) савецкай кіназоркі і спявачкі.

1. Якім з прыбораў карыстаюцца артысты падчас выступлення на сцэне? (Компас. Мікрафон. Дазіметр.)

2. У якой з пабудоў звычайна жывуць замежныя турысты? (Атэль. Шалаш. Бардэль.)

3. Які з інструментаў прызначаны для выразвання ўзораў? (Фуганак. Дрыль. Лобзік.)

4. Як назвалі цяжкае захворванне, якое ў 1918-1919 гадах распаўсюдзілася па многіх краінах свету? (Шведка. Немка. Іспанка.)

5. Хто напісаў раман "Амерыканская трагедыя?" (Купер. Твэн. Драйзер.)

6. Як звалі легендарнага спартанскага цара, які разам са сваім атрадам загінуў у няроўным баі з персамі? (Леанід. Антоній. Георг.)

7. Якая з міжнародных арганізацый займаецца адукацыяй, навукай і культурай? (МАГАТЭ. ЮНЕСКА. ОПЕК.)

8. Якое з гэтых слоў азначае спосаб бегу каня? (Кар'ер. Акоп. Траншэя.)

9. Дзе знаходзіцца запаведнік "Асканія-Нова"? (Казахстан. Украіна. Арменія.)

10. Які з гэтых хімічных элементаў адносіцца да інертных газаў? (Тэлур. Неон. Паланій.)

11. Які з гэтых дваранскіх тытулаў з'яўляецца самым высокім? (Маркіз. Барон. Герцаг.)

12. Да якой гары, паводле Біблії, прычаліў Ноеў каўчэг? (Эльбрус. Сінай. Арарат.)

13. Хто напісаў карціну "Мужык з дурным вокам"? (Рэпін. Шышкін. Васняцоў.)

14. Якая з гэтых жывёлін з'яўляецца горным дзікім бараном? (Бабуін. Архар. Сайгак.)

15. Уладальнікам якога з гэтых англійскіх футбольных клубаў з'яўляецца губернатар Чукоткі Раман Абрамовіч? ("Лідс". "Арсенал". "Чэлсі".)

Чакаем вашых адказаў на працягу 10 дзён.



**Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

- Аўдзі-200 Авант, 1989 г.в., ёсць усё, акрамя скуры, 3100 у.а. Тэрмінова. Т. (8-029) 6850232, (8-029) 7030232.
- Аўдзі-100, 1989 г.в., 1,8Б; ФВ Гольф-2, 1984 г.в., 1,6Д. Т. у Вілейцы 33223, (8-029) 6254552.
- Аўдзі-100, 1990 г.в., 2,0 ТД, серабрысты металік, ц/з, г/у, эл/пакет, эл/люк, велюр, клімкантр., 3400 у.а., торг. Т. у Смаргоні 53563 (увечары).
- Аўдзі-100, 1986 г.в., 1,8К, добры стан. Т. (8-029) 6809541.
- А/м з Германіі. Т. у Маладзечне 50183, (8-029) 6560483.
- БМВ-318, 1300 у.а.; ВАЗ-2107, 600 у.а. Т. у Маладзечне 37607.
- БМВ-318, 1984 г.в., 1,8 інжэктар, добры стан. Т. у Маладзечне 71788, (8-029) 7780736.
- БМВ-320, 1987-88 г.в., чорны, л/д, ц/з, эл/люстэркі, магн., нов. АКБ, тэрмінова. Т. у Маладзечне 71224.
- БМВ-324Д, 1990 г.в., 2300 у.а. Т. у Вілейцы 49652.
- ВАЗ на з/ч, шкло лабавое МАЗ, новае. Т. (8-029) 6139665.
- ВАЗ-2101, поўны капрамонт, 550 у.а. Т. у Вілейцы 57768, (8-029) 7674127.
- ВАЗ-21011, 1978 г.в., седан, капрамонт + запчасткі, нядорага. Т. (8-029) 4007367.
- ВАЗ-2153, 1995 г.в., 1,5 л. Т. (8-029) 7074849.
- ВАЗ-2153, 1995 г.в., вішня, 1400 у.а. Т. (8-029) 6456601.
- ВАЗ-2106, 1985 г.в. Т. (8-029) 6338340.
- ВАЗ-2106, 1988 г.в.; рэдуктар задняга маста ГАЗ-53. Т. у Маладзечне 61062.
- ВАЗ-21061, 1991 г.в. Т. у Маладзечне 76719.
- ВАЗ-21063, 1988 г.в., 700 у.а. Т. у Маладзечне 43231, (8-029) 6598863.
- ВАЗ-21063, 1986 г.в., выдатны стан, 1050 у.а. Т. у Маладзечне 31727.
- ВАЗ-21063, 1987 г.в., 1,5, белы, 1000 у.а. Т. у Вілейцы 58308.
- ВАЗ-21063, 1987 г.в., 870 у.а. Т. у Маладзечне 33102.
- ВАЗ-21063, 1985 г.в., прабег 90 тыс., фаркоп, ахова крылаў, добры стан, 980 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57174.
- ВАЗ-2107, 1996 г.в. Т. у Маладзечне 41437.
- ВАЗ-2108, 1989 г.в., вішня, у выдатным стане, цюнінг (а/м у Маладзечне). Т. (8-029) 6349761.
- Вольву-740, 1990 г.в., шэры металік, дызель, усе навароты, 3200 у.а., торг. Т. у Вілейцы 54512.
- Вольву-740, 1986 г.в., 2,4Д, п/з. Т. (8-029) 7654595.
- ГАЗ-21 "Волга". Т. (8-029) 6338340.
- ГАЗ-24 "Волга". Т. у Маладзечне 37200.
- ГАЗ-3110 "Волга", 1999 г.в., добры стан, прабег 23 тыс. км, бензін А-76, зялёны сад. Т. у Вілейцы 56036.
- ГАЗ-53 дызельны ці памяняю на трактар, можна без дакументаў. Т. (8-029) 6434876.
- ДАФ, 1991 г.в., 2,5 ТД, дубль ці памяняю на л/а, 2600 у.а. Т. у Маладзечне (8-029) 6933808.
- Дэу Нексія, 1997 г.в., 1,5 бензін. Т. у Астраўцы 20963.
- КАМАЗ бартавы з прычэпам. Т. у Вілейцы 56862, (8-029) 6382776.
- Мазду-323F, 1991 г.в., г/у, ц/з, 2400 у.а., торг. Т. у Маладзечне 43104 (пасля 18.00).
- Масквіч-2140 на ходу, можна на запчасткі, 100 у.а. Т. у Вілейцы (8-029) 7615562.
- Масквіч-2140 на запчасткі; участак 15 сотак. Т. у Вілейцы 32086.
- Масквіч-2141, 1991 г.в., 1,6 л. Т. у Маладзечне 35000, (8-029) 6341438.
- Масквіч-412 ІЖ, 1983 г.в., у добрым стане. Т. у Маладзечне 37284, (8-029) 7648067 (Ігар).
- Мерседэс-124, 1986 г.в., рухавік 230Е, г/у, л/д, АБС, карэктар фар, а/магнітола, 219980 км. Т. у Вілейцы 35353, 58859.
- Мерседэс-190, 1986 г.в., 2,0Б, г/у, ц/з, люк. Т. (8-029) 7663552.
- Мерседэс-190Е, 1984 г.в., 2,0і, г/у, ц/з, люк, чорны металік. Т. у Вілейцы 54492.
- Мерседэс Е-250, 1995 г.в., дызель, 7400 у.а., торг. Т. (8-029) 7734209.
- Нісан Сані, 1992-93 г.в., 1,6V, 16 кл. Т. у Маладзечне 67845 (пасля 20.00).
- Опель Амегу, 1987 г.в., 2,3Д, добры стан. Т. у Маладзечне 41288, (8-029) 4003577.
- Опель Аскону, 1984-85 г.в., 1,3 аб'ём рухавіка, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 96693 (хатні), (8-029) 7030392 (увечары).



# Купон 24

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

# Кінатэатр «Радзіма»

**11-13 чэрвеня. Прэм'ера. «Егер»**, Расія, драма. 11 чэрвеня – у 17.00, 19.00 і 21.00; 12 і 13 чэрвеня – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**14-20 чэрвеня. Прэм'ера. «Забойная парачка: Старскі і Хатч»** – у 17.00, 19.00, 21.00

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

**11 чэрвеня. «Цуда-сланяня»**, ЗША, камедыя – у 10.00, 12.00 і 14.00.

**12, 13 чэрвеня. «Прынцэса лебедзь III. Тайна зачараванага скарбу»**, ЗША, анімацыя – у 13.00.

**14 чэрвеня. «Карлік нос»**, Расія, анімацыя – у 10.00, 12.00 і 14.00.

**15 чэрвеня. «Востраў скарбаў»**, кінастудыя імя Горкага, прыгоды – у 10.00, 12.00 і 14.00.

**16 чэрвеня. «Сіндбад. Легенда сямі мораў»**, анімацыя – у 10.00, 12.00 і 14.00.

**17 чэрвеня. «Джой»**, ЗША, прыгоды – у 10.00, 12.00 і 14.00.

Кожную суботу ў 21.00 – відэадыскатэка. Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні – штодзённа, акрамя панядзелка. Пракат ліцэнзійных відэакасет ад фірмы "ВідэаАльянс". Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ІМЯНІНЫ

**11 чэрвеня. Праваслаўныя**: Фядоссі, Івана. **Каталіцкія**: Варнавы, Фелікса.

**12 чэрвеня. Праваслаўныя**: Ісака. **Каталіцкія**: Ануфрыя, Кадзі, Яна.

**13 чэрвеня. Праваслаўныя**: Ермія. **Каталіцкія**: Антона, Люцыяна.

**14 чэрвеня. Праваслаўныя**: Аліны, Валяр'яна, Дзяніса, Харытона, Усціна. **Каталіцкія**: Эльвіры, Базыля, Валерыя.

**15 чэрвеня. Праваслаўныя**: Ульяны, Івана, Нічыпара. **Каталіцкія**: Іяланты, Віта.

**16 чэрвеня. Праваслаўныя**: Дзмітрыя, Дзяніса, Паўла. **Каталіцкія**: Аліны.

**17 чэрвеня. Праваслаўныя**: Засімы, Мяфодзія, Мітрафана, Севярына. **Каталіцкія**: Лауры, Адольфа, Альберта.

